

# Ніва



ГОД I № 13 БЕЛАСТОК, 27 МАЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.


ЯНКА КУПАЛА

## АЛЕСЯ

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.

Гаманіў бор сасновы
Увечары і ранкі,
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі.

— Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі,
Спі, засні, мая кветка,
Люлі, люлі, люлі.

— Спі, не ведай трывогі,
Надыйдзе часінка, —
На свае ўстанеш ногі,
Мая ты дзяўчынка.

Будзеш кужаль ты прасці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаці долі, шчасця
У маладыя вёсны.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.

Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчаслівай краінай,
Над роднай старонкай.

Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам,
Ці як ястраб з высотаў
Скача з парашутам.

І да сонца праз хвілю,
І ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыллем
Воблакі калыша.

Стара маці днём, ночкай
Марыць ля аконца:
Ужо к прасніцы дочка
Не зляціць з-пад сонца.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

МАКСІМ ТАНК

## РУКІ МАЦІ

Іх цалавала зямля
Сваімі пясчанымі вуснамі
І каласамі;
Неба спякотай, вятрамі, дажджамі
Іх цалавала.

Пража нямала
З іх выпіла ў ночы бяссонныя
Свежасці ранняй.
Колькі яны запалілі світанняў,
Зораў над намі.

Колькі сягоння на іх
Віднеецца чорных, глыбокіх
Бароznаў - маршчынаў,
Быццам пакінулі след каляіны,
Нашы дарогі.

Толькі заўсёды,
Як мы зберымося дамоў
І на стол пакладзе рукі маці,
Быццам ад сонца, ад іх пасвятлее у хаце
І ў сэрцы.



*Шчаслівае дзяцінства.*

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## Аб патрыятызме

Ад нейкага часу на старонках „Нівы" пачалі друкавацца артыкулы адносна патрыятызму, што заахвоціла мяне выказацца на гэту тэму.

Кожны чалавек любіць месца, дзе ён нарадзіўся і выхаваўся. Гэтая любоў з'яўляецца агульнай для ўсіх людзей і народаў. У свеце няма нічога даражэйшага ад жыцця — іменна яно з'яўляецца першым шчасцем і пачатак гэтага шчасця для нашага выбражэння мае нейкую асаблівую чароўнасць, прывабнасць.

Жыхар поўночнай Швецыі, нягледзячы на суровы клімат сваёй краіны, любіць яе! Паспрабуйце перасяліць яго ў сонечную Грэцыю — ён поглядам і сэрцам будзе заўжды звяртацца на поўнач, падобна магнэсу. Яркае ззянне сонца не выкліча такіх прыемных пачуццяў у яго душы, як змрочны дзень, як свіст буры, як паданне снегу — яны нагадваюць яму радзіму, дзяцінства, блізкіх людзей, першае каханне і ўсе самыя шчаслівыя моманты з мінулага жыцця ў роднай краіне.

Сам стан нерваў, створаных у чалавеку па клімаце, прывязвае чалавека да Айчыны.

Я ўпэўнены, што такую любоў, прыхільнасць і сімпатыю да бацькаўшчыны жывіць і Кірыл Самайлюк з вёскі Падрэчаны, хоць і вельмі здзіўляецца, што гэта за рацыяналізатары „вынайшлі" беларускую мову.

Аднак адно толькі пачуццё аддanасці — гэта яшчэ не патрыятызм, а нам іменна патрэбны патрыятызм, які абгрунтоўваецца на любві да свайго роднага, беларускага народа, да яго культуры; на веданні яго гісторыі, на жаданні росквіту свайго народа і славы, таму што яго слава з'яўляецца нашаю славай. І калі прыемна называцца сынам бацькі, які карыстаецца агульнай пашанай у таварыстве, то тым больш прыемна называцца сынам слаўнага народа.

Веданне роднай гісторыі мае немалы ўплыў на патрыятызм. Таму неабходна азнаёміваць беларускае насельніцтва нашага ваяводства з гісторыяй беларускага народа, каб кожны ведаў, хто гэта такі быў Георгі Скарына ці Сымон Полацкі, а хто такі Іосафат Кунцэвіч, аб гісторыі ўвядзення царкоўнай уніі і яе задачах. Кірыл Самайлюк з Падрэчан даведаўся-б аб гэтых усіх падзеях, аб якіх, мабыць ніколі ў жыцці не чуў. І многія іншыя беларусы, якія дабіўшыся якога-небудзь цёплага месцайка ў горадзе, часта адракаюцца ад сваёй нацыянальнасці і мовы, перадумалі-бы свае паводзіны. Пісаць аб тым абавязкова трэба.

Мы-ж жывем у эпосе соцыялізма, калі кожная нацыя мае права на развіццё сваёй нацыянальнай культуры. Як-жа выракацца ў такія часы ад роднай мовы, на якой мы вымаўлялі свае першыя словы; на якой нашая маці спявала нам над калыскай песні; на якой мы выказвалі свае першыя пачуцці. Як можна зракацца роднай мовы — гэтай адзежы, па якой пазнаюць нас другія народы і рабіцца чалавекам без нацыі, без патрыятызму і, такім чынам, без шчасця, таму, што ці-ж можна быць шчаслівым без свайго народа, сваей культуры?

Падумайце аб гэтым, браты беларусы: вы, якія вучыцеся ў вышэйшых навучальных установах нашай краіны, і вы, якія займаеце кіруючыя пасады, і вы, настаўнікі — беларусы, у чые рукі даверана выхаванне нашых дзяцей! Што надзённа трэба рабіць, каб узняць нацыянальную гордасць беларусаў?

Беларускае насельніцтва нашага ваяводства не мае магчымасці азнаёміцца са сваёй гісторыяй у школах. Гісторыя беларускага народа не навучалася і не навучаецца. У выніку гэтага некаторыя думаюць, што беларусы — гэта русыфікаваныя палякі. Таму мне здаецца, што пачэснейшай задачай „Нівы" з'яўляецца — сістэматычна азнаёміваць чытачоў з гераічным мінулым беларускага народа, народа свабодалюбівага, народа працалюбнага, з яго шматвяковай барацьбой супраць нацыянальнага прыгнёту.

Гісторыя — гэта-ж у некаторым сэнсе як-бы свяшчэнная кніга народа, кніга галоўная, неабходная, люстра яго жыцця і дзейнасці, скрыжаль запаветаў і адкрытасці. Як-жа нам не цікавіцца ею, не ведаць яе.

М. КАПЧУК — Беласток

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# ЭЛЕКТРЫЧНАЕ даенне кароў




*Схема трохтактнай электрадаілкі.*

Адноў з важнейшых умоў павелічэння надою малака ў кароў з'яўляецца прымяненне электрычнага даення кароў. Электрычнае даенне кароў змяншае фізічныя намаганні чалавека, дае магчымасць атрымліваць гігіенічна чыстае малако. Электрычнае даенне кароў заключаецца ў тым, што пустотная помпа выпампоўвае паветра з трубкавых правадоў злучаных з гумавымі шлангамі электрадаілкі.

Атрымліваемая пустата ўздзейнічвае цераз прысосак (аспіратар) электрадаілкі на саскі каровы. У выніку гэтага сцягваецца малако з вымя каровы, і гумавымі шлангамі перапампоўваецца ў бодню („конаўка".).

Электрарухавікі, якія прыводзяць у дзеянне пустотную помпу пускаюцца ў рух пры дапамозе нажавога выключальніка.

Задачай даяркі з'яўляецца толькі злучэнне гумавых шлангаў апарата з пустотнымі правадамі, адамкнуць краны і насадзіць прысоскі на саскі вымя кароў.

Пасля сканчэння даення электрадаілку трэба дакладна вымыць гарачай вадою.

Галоўнымі асаблівасцямі гэтай электрадаілкі з'яўляецца т. зв трохтактнасць. Першы такт — гэта ссанне малака, другі такт — гэта сціскание і трэці — гэта такт адпачынку.

Такая электрадаілка складаецца з наступных частак:

I.

1. — Электрарухавік — 2,5 кіловат
2. — Пустотная помпа
3. — Пустотны бак.

II.

4. — Рэгуліравачны вентыль
5. — Пусготазмяральнік
6. — Трубкаватыя правады з кранамі, даўжынёй каля 100 — 150 метраў.
7. — Бодня
8. — Гумавыя шлангі
9. — Прысоскі.
10. — Вымя.

III.

Кожны апарат складаецца:

1. Бодня
2. Пульсатара
3. Калектара
4. Чатыры прысоскі.

Электрадаілкі ўжываецца ў калектыўных гаспадарках, якія маюць не менш 100 кароў.

У выпадку адсутнасці электрычнага току можна ўжываць цеплавыя рухавікі, але яны з'яўляюцца менш эканамічнымі чым электрарухавікі і болей небяспечнымі ў пажарным парадку.



*Даілкі з цеплавым рухавіком.*

У сучасны момант у СССР вельмі шырока ўжываюцца аднаправодныя трохтактныя электрадаілкі канструкцыі лаўрэатаў Сталінскай прэміі У. Каралёва і С. Кнашова.

інж. У. ЛУЧЫНСКІ
Беласток

## Радыёактыўны ізатоп правярае якасць металу

Кацельны цэх Магілёўскага лакамабільнага завода. Тут будуюцца магутныя паравыя катлы. Вонкавы выгляд іх і месцы зваркі беззаганна роўныя і гладкія. Але вось да катла падыходзіць кантралёр.

У яго руках невялікая яйкападобнай формы дэталь. Гэта прыбор для вызначэння якасці зваркі металу. Унутры прыбора ў двух шкляных, металічнай і свінцовай абалонках заключан ледзь прыкметны простым вокам кавалачак радыёактыўнага мезаторыя.

Пачынаецца праверка зварачных работ. Кантралёр адкрывае вузкую палоску свінцовай абалонкі прыбора і прыкладае яго да вонкавага боку шва катла. Мезаторый выпраменьвае магутныя гамапрамені, якія, праходзячы праз метал, поўнасцю адлюстроўваюць на фотаплёнцы, замацаванай знутры катла, усе дэфекты: недавар металу, наяўнасць унутры яго газавых ракавін і шлакавых рэштках.

Раней зварачныя работы правяраліся шляхам выбарачнага свідравання паверхні металу і ўсемагчымых аналізаў стружкі. Такі працэс не даваў правільнага уяўлення аб якасці зварачных работ.

Цяпер на прадпрыемстве радыёактыўным мезат рыем правяраюцца усе зварачныя работы ў дэталях, якія падвяргаюцца ціску або нагрузцы.

## Беластоцкае піва

Беластоцкае піваварна - саладзільнае прадпрыемства, якое ў мінулым годзе выпрадукавала 87.500 гекталітраў піва — у пяцігодцы будзе прадукаваць яго больш 133.000 гекталітраў. Значны ўздым вытворчасці будзе дасягнуты дзякуючы рэалізацыі прапаноў, якія далі рабочыя ў час дыскусіі над пяцігодкай.

Пасля рэалізацыі гэтых прапаноў узрост прадукцыйнай здольнасці павялічыцца на 52 прац. у параўнанні да 1955 года.

Ужо ў 1957 годзе прадпрыемства дасць 100.000 літраў высокаякасных газавых вод, а прадукцыя „Портэра" павялічыцца ў пяцігодцы на 5.000 гекталітраў ў параўнанні да 1955 г.

Так, што жыхары Беласточчыны не будуць ужо наракаць на недахоп асвежаючых напіткаў у гарачыя дні лета.

## Новы спосаб лоўлі рыбы

Каспійскі Філіял Інстытута Акіяналогіі і Рыбалоўлі Акадэміі Навук СССР распрацаваў спосаб аўтаматычнай лоўлі рыбы. Гэты спосаб заключаецца ў наступным: пад вадой запальваецца дзве высокавольтавыя лямпы. Рыба масава пачынае плысці на крыніцу святла. Устаноўленыя на борце насосы ўсмоктваюць ваду з рыбай і шлангамі перапампоўваюць яе ў адпаведныя месцы. Лоўлю рыбы вядзецца ноччу. Аднаразовы ўлоў такой рыбы, як кірка, даходзіць да 110 тон. Гэты спосаб лоўлі рыбы ў сучасны момант атрымаў шырокае прымяненне ў рыбных промыслах Каспіі.

Аднак буйную рыбу такім спосабам лавіць нельга. Лоўля буйнай рыбы заключаецца ў наступным: у вадзе размяшчаецца электроды, якія ўтвараюць электрычнае поле.

Электрычнае поле прыцягвае буйную рыбу, якую і вылаўляецца конуснымі сецямі.

## Ці ведаеце што...

...Брытанскі лётчык Пэтэр Твіс з фірмы „Фаір", устанавіў сусветны рэкорд хуткасці на рэактыўным самалёце тыпу „Фаір Дэльта" II. Новы рэкорд хуткасці — 1822 кіламетраў у гадзіну.

...31 мільён зл. каштавала Дзяржаўны банк замена знішчаных праз нядбайнае абыходжанне, банкнотаў.

...У 1937 годзе налічвалася ў Польшчы каля 769 сталых і рухомых кіноўстановак, а ў 1955 годзе налічвалася іх ужо 2.887. Гэтая лічба на працягу пяцігадовага плана значна павялічыцца.

...Перад вайной у Польшчы не было ніводнай радыёфікаванай вёскі. У 1955 годзе налічвалася ўжо каля 13.494 радыёфікаваных вёсак.

...У 1938 годзе ў Польшчы было зэлектрыфікаваных 1.300 вёсак, а ў 1955 годзе зэлектрыфікавана ўжо 15.000 вёсак.

...Па колькасці насельніцтва і тэрыторыі Польшча займае 7 месца ў Еўропе. У 1949 годзе ў Польшчы налічвалася 24.4 мільёна насельніцтва,; у тым ліку 11,5 мільёна мужчын і 12,9 мільёна жанчын. Апошняя статыстыка з 1954 года паведамляе, што лік насельніцтва ўзрос да 26,8 мільёна.



*Першая Савецкая комплексная антарктычная экспедыцыя. Верталёт аказвае вялікую дапамогу савецкім даследчыкам Антарктыды.*

*На здымку: камандзір верталёта І. Іназемцаў перад вылетам у кабіне машыны.*

*Фото А. Качэтава*
*Фотахроніка ТАСС*

## Адкуль узялася назва Сувалкі?

Як гаворыць арадаўняя легенда — у XV стагоддзі ў Тухольскай пушчы пасялілася некалькі літвінаў. Называлі іх „Сувілкас" — гэта значыць вандраўнікі.

Невялікая на пачатку вёска разраслася ў сапраўднае аселішча. Прывілея 1715 года звольніла Сувальчан ад паншчыны на карысць камедулаў, надаючы ім правы мяшчан. Новае мястэчка атрымала пэўную колькасць пляцоў пад будаўніцтва; 83 улукі зямлі, 300 маргоў лесу, пэўную колькасць сенажацяў, права высечкі манастырскага лесу на будаўніну, а таксама звальненне на працягу 7 год ад зямельных і кірмашовых падаткаў.

У 1720 г. Сувалкі атрымалі магдэбурскае права і герб.

У 1816 г. Сувалкі з'яўляюцца ўжо цэнтрам Аўгустоўскага ваяводства. Вырашылі аб гэтым два цагляныя дамы, якія стаяць у цэнтры горада. У гэтых дамах былі размешчаны адміністрацыйныя ўстановы.

У 1834 годзе Сувалкі з'яўляюцца ўжо губеранскім горадам. Пасля І сусветнай вайны Сувалкі так, як і ў сучасны момант, былі павятовым цэнтрам. Здаецца, што 250 год — гэта невялікі адрэзак часу. А змены аднак адбыліся вялікія.

Зараз Сувалкі налічваюць амаль 19 тысяч жыхароў. Колькасць дамоў павялічылася ў 1000-чу разы.

## Дакладны гадзіннік

У Совецкім Саюзе сканструявана новы тып электрычнага гадзінніка. Мае ён электрычны рухавік, які забяспечваецца электраэнергіяй са спецыяльна сканструяваных акумулятараў.

Гадзіннік гэты працуе бесперапынна з вялікай дакладнасцю праз увесь год. Будзе ён прымяняцца, галоўным чынам, у астраноміі.

Янка Брыль

## ЗЯЗЮЛЕНЬКА

(12)

«У мяне ёсць таксама дачушка, — расказваў Сцяпан, ідучы. — Яна толькі вучыцца пачала, а тут яны прышлі — фашысты. Ці жывая хаця? Можа, хату спалілі? Ты думаеш, адзін з другім, што я хачу толькі пад'есці?.. Я там іх, праклятых фархлюхтараў, накармлю!..» І словы яго не засталіся толькі словамі. Тут-жа, у гэтым самым пакойчыку, мы запівалі з Калодкам яго партызанскі ордэн...

— Я хацела-б, — яшчэ ўсё нясмела гаворыць Алеся, — паступіць на філфак.

— А як з пяцёркамі? Ёсць?

— Ёсць.

— І многа?

— Усе.

— Ды ну, дарагая мая, што-ж ты пра гэта так ціха гаворыш!..

Дзяўчынка смяецца з харошай, цудоўнай скромнасцю ў сініх разумных вачах. Яна смялее трохі і пытаецца:

— Вы дачыталі ўжо да канца? Мне тата казаў перадаць...

Яна заварушылася, узяла з кутка свой чамадан.

— Ды не, не дачытаў яшчэ, — адказваю, зноў беручыся за пісьмо.

«...Пасылаю табе, браток, кавалак нашага брэсцкага сала. Сала калгаснае, тоўстае. Ты там, відаць, далікатны зрабіўся, дык я табе скажу, што можаш яго адзін не пачынаць. Прасоленае добра, паляжыць у халодным месцы. А падходзімся — сам прыеду, дык вып'ем і закусім, брат, на поўную губу. Добра яшчэ, каб Мікола прыехаў!..»

З таго дня ў маім спісе сяброў прыбыло яшчэ на аднаго, лепш сказаць — на адну. Алеся, праўда, упарта заве мяне дзядзем, але гэта і добра: прынамсі я памятаю заўсёды, як выраслі тыя, за каго мы хадзілі ў агонь, дзесяць гадоў таму назад перастаўшы быць юнакамі.

«Эх, Мікола!» — хачу я ўздыхам пачаць гаворку з маім, яшчэ ўсё халастым, дырэктарам, ды вось раздаецца трэці званок. Адложым іх знаёмства да антракта.

...На сцэне — маладосць дэмакратычнай, новай Польшчы. Стракатая, шматфарбная вясёлка народнай вопраткі, якую я не бачыў больш дзесяці гадоў. Новая моладзь, якую мы вітаем тут упершыню.

Магутна велічна гучыць наш гімн, які спяваюць тыя, для каго ён цяпер неразлучны са словамі воля і шчасце. Зусім па-новаму ўспрымаюцца і старыя словы аб тым, што «Польшча яшчэ не загінула». У дружнай сям'і магутнага лагера міру яна не згіне ніколі!.. Усхваляваныя, шчырыя словы вітання, якімі па чарзе абменьваюцца наш і іхні прадстаўнікі — мы слухаем нібы прысягу дружбы.

А потым песні — чароўныя песні працоўных, шчаслівыя дзеці якіх прынеслі нам з польскіх раўнін і звонкую радасць сённешняга дня і задушэўны, горкі сум мінулага.

«Зязюленька» — песня з сасновых лясоў, што шумяць над пяскамі Мазоўша, дзе коціць празрыстыя воды шырокая Вісла. І над Нёманам песня гучэла калісці зязюліным сумам у сонечным лесе. Тугой бязлікіх вёснаў голаду і цяжкай, паднявольнай працы. Аб тым, што мінулае назаўсёды мінула, а новае назаўсёды прышло, аб тым, што наша новае штораз навей, як нараджэнне дня, — аб гэтым гаворыць цудоўная польская песня...

— Яна! — нервова шэпча Мікола, да болю ціснучы маю руку. — Глядзі, у першым шэрагу, сёмая злева...

Вочы мае адлічваюць шэсць дзяўчат, спыняюцца на той, якая нам знаёмая даўно... Дзяўчынка з косамі, светлыя вочы. Яны захоплена глядзяць на рукі дырыжора. Яны, магчыма, не бачаць не толькі нас — два, сярод соцен, твары — яны не бачаць, не адчуваюць нічога, апроч гэтай песні... І я праз момант не бачу нічога, што перад намі, а толькі лес, далёка за якім заходзіць сонца, і босую, у старэнькай стракатай сукенцы спявачку Ядзю, наймічку прускага кулака.

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку...

— А можа і не яна, — зноў шэпча побач са мной Мікола.

Мы забываемся аб тым, што развражаем наіўна. Я таксама сную вачыма па радах спявачак, сярод мноства — здалёк падобных адна на адну — дзяўчат, стараюся пазнаць, адрозніць нашу Ядзю. І дарэмна! Мноства вачэй аднолькава перадае натхненне, у многіх дзяўчат — асабліва зусім маладзенькіх — амаль па-дзіцячаму хораша, як у Ядзі калісьці, складваюцца губы, каб як найлепш перадаць кукаванне зязюлі. А галасы гучаць адзіным хорам, дзе кожны голас жыве неразлучна з усімі.

«Не, гэта, безумоўна, не яна. Ды, зрэшты, не ў гэтым справа!»

І я ўжо не шукаю сярод іх знаёмую, — усе яны гавораць за яе аб новым шчасці мільёнаў такіх, як Ядзя.

«Ты — мой найлепшы друг!» — успамінаю я словы, якія ходзяць са мною даўно, якія з кожным днём жыцця — усё навей.

КАНЕЦ

